# ШАРПАК

### *Беларусь*

Іван Бісеў
Алена Агіна
Алег Ананьеў
Фелікс Мысліцкі

### *Расія*

Іераманах Раман
Марына Юніцкая
Аляксандр Якушэнка
Станіслаў Сянькоў
Наталля Собалева
Сцяпан Кузькін
Мікалай Пасноў

# В ОТБЛЕСКАХ ДУШИ

### *Беларусь*

Геннадий Говор
Николай Литвинов
Михаил Болсун

### *Стихи Нины Шкляровой в переводе с белорусского*

### *Россия*

Марины Юницкой
Владимира Маслова
Станислава Сенькова
Владимира Парыгина

### *Беларусь*

Елены Агиной
Алёны Алешины
Феликса Мыслицкого
Елены Кобзевой



Ніна Шклярава нарадзілася ў вёсцы Пракопаўка Гомельскага раёна. Вучылася ў Церахоўскай СШ, закончыла Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны. Працавала настаўніцай у школах Гомеля, а таксама рэдактарам Гомельскай студыі тэлебачання. Аўтар шматлікіх вершаў, паэм, выдадзеных асобнымі кнігамі. Сярод іх і знаёмая чытачам "Дзічка" (2001). Многа перакладае. Падрыхтавала да друку пераклад са старажытнарускай мовы "Слова пра паход Ігаравы", а таксама з рускай – дзіцячых вершаў. Завершана кніга прозы "Ліставей".

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат прэміі памяці Івана Мележа.

*Ніна Шклярава*

# А Б Е Р У Ч

*Пераклады*
*з рускай і беларускай моў,*
*вершы*

Гомель
Б а р к
2007

УДК [821.161.3+821.161.1]-1
ББК 84(4Беи)-5+84(2Рос=Рус)-5
Ш66

**Шклярава Н.**

Ш66 Аберуч : пераклады з рускай і беларускай моў, вершы / Ніна Шклярава. – Гомель : Барк, 2007. – 60 с.

**ISBN 978-985-6763-26-0**

У кнізе прадстаўлены творы розных паэтаў Расіі і Беларусі. Гэта вершы Іераманаха Рамана, Аляксандра Якушэнкі, Марыны Юніцкай, Фелікса Мысліцкага, Івана Бісева і іншых. Перакладзеныя Нінай Шкляравай з рускай і беларускай моў, яны набываюць другое дыханне і новае гучанне. Узнікае мелодыя, якая выпраменьвае цяпло, дае крылы і сілы для ўзлёту.

Вершы Ніны Шкляравай у перакладзе на рускую мову таксама не пакідаюць нас раўнадушнымі. Многія з іх можна было сустрэць у перыядычным друку. І таму яны ўжо добра вядомыя чытачу.

УДК [821.161.3+821.161.1]-1
ББК 84(4Беи)-5+84(2Рос=Рус)-5

**ISBN 978-985-6763-26-0**

# ГОЛОСА В ИНОЙ ПОЧВЕ

У стихов есть всегда их родная почва, из которой они произрастают. Взращивает их любовь к Творцу, к земле, к людям...

Если у автора нет любви, нет у него творчества и результата.

Для того, чтобы перевести стихи с родного языка на иной язык, надо пересадить их в нужную почву, надо сделать так, чтобы она приняла их и наделила силой. Задача у переводчика не простая. Иные хорошо пишут стихи, а переводят слабо, и наоборот.

У Нины Шкляровой получается всё хорошо, она прекрасная поэтесса и прекрасная переводчица.

В книге “Аберуч” звучат стихи брянских и гомельских поэтов на белорусском и русском языках.

Заслуга переводчицы в том, что некоторые стихи оригинала она усилила, сделала их художественно более значимыми.

Книга звучит как хороший хор, в котором все голоса на месте, каждому как бы отведены своя роль и своё назначение.

Начиная поэтический сборник со стихов Иеромонаха Романа, Н. Шклярова подчёркивает, что искусство, а тем более литература, религиозны. Переводы настолько ярки, что у стихов видятся лица, слышится их сердцебиение.

Я не буду повторять в маленьком эссе содержание книги. Я хочу только привлечь внимание читателя к её дивной гармонии, стройности и пожелать переводчице и поэтессе, большому знатоку белорусского языка, творческих удач и свершений.

*Феликс Мыслицкий,*
*член Союза российских писателей,*
*член Союза писателей Беларуси*

*Ніна Шклярава*

## АБЕРУЧ

Зашклёна рэчка тонкім лёдам!
Да берага другога ходу
Мо крокаў дзесяць... Як жа быць –
Ні перайсці, ні пераплыць!

Я б паляцела, ды не птушка,
А завіруха, як пялюшкі,
Снягі палошча над ракой,
Да неба ўжо падаць рукой...

А з берага другога песня
Гукае, нібы вырай весні,
Ды шэптам моліцца быльнёг.
Пачуў яго, напэўна, Бог...

І там, дзе лёд, – шарпак насланы,
Мяцеліцай пафарбаваны.
Іду, і радасць сэрца грэе –
Мне два крылы дала завея:

Адно – то песня мне на ўцеху,
Другое – гэтай песні рэха.
Я з гэтай песняю лунаю
То па-над пеклам, то над раем.
То храм аклікне, то касцёл...

Прашу, адкрыйце, людзі, дзверы –
Я песню вам нясу аберуч,
Як свечку мне ў руках анёл.

І толькі душа Песняра
Апантаная
Божай усмешцы адной
Паслухмяная.

*Марына Юніцкая*

# Шарпак

## *Пераклады з рускай мовы*

## Іераманах Раман

* * *

Я хачу стаць схімнікам,
Высахлым шкілетам,
Быць доўгавалосым
Тыпу чарняца.
І ў азёрнай гладзі
Бачыць не паэта,
А абрыс бадзягі-мудраца.

І нашто мне туфлі?
Хай другія носяць,
Я надзену лапці,
Што тут варажыць?

Ды ад збытку смутку
(Толькі б не ад злосці)
Упаду у жыта
Прама на мяжы.

Стаць хачу імжою
Ці балотнай жыжкай,
Абы толькі жыжка
Амярцвіла зло.

Выпіце па кроплі, –
Я зажыўся крышку.
Выпіце без боязі,
Я сыду без слоў.

* * *

І настрой у мяне так сабе,
Не заснуць, ды і сон без патрэбы...
Мокры ясень прыціх у журбе
І уважліва слухае неба.

Прытаміўся ён, хоць за вярсту
Чуе птахаў жалобныя крыкі.
Быць нялёгка яму на віду
І маліцца нябёсам урыўкамі.

А часіны былі – зелянеў
І цягнуўся да сонца штосілы.
А калі агаліўся, збяднеў,
То пісьмёны спасціг небасхілу.

Ён прамёрз ажно да каранёў –
Без ліствы сярод стылага бору,
І слізгае сваёй пяцярнёй
Па стыхірах далёкіх сузор'яў.

Не заснуць мне сягоння, ані...
Гэтай позняю ночкай асенняй
Мокры ясень на неба глядзіць,
Нібы ён на ўсяночным маленні.

* * *

Ужо не прагну вылячэння,
Хоць і не страціў я надзей...
Свае малебныя прашэнні
Я ў немату даўно адзеў.

І ў храме прад іконай строгай
Схіляюся без слоў спярша.
Зноў не адрынуты я Богам,
Жывая зноў мая душа.

Я спасцігаю сэнс навукі –
Сабе нічога не прасіць.
Вучуся ўдзячнасці за мукі,
А значыць, – чалавекам быць.

## *Марына Юніцкая*

* * *

Каханне майго ранняга віно!
Так дзіўна яно выпіта, так дзіўна...
Ды гэта так было даўным-даўно,
Нямашака віна таго ў паміне,
Як і няма ні радасці, ні болю,
Як тых рамонкаў, што квітнелі ў полі.
Я паўтараю:
Так даўно і дзіўна!..
Нібы ў пясках
Па высмяглай пустыні
Брыдзе вярблюд без седака.
Адзіны
На ўсёй зямлі...
Ён галавой матае,
Усё спасціг, але ж любві не знае.
І ўсё ідзе-брыдзе,
Брыдзе-ідзе,
Пакуль аднойчы ён
Не ўпадзе.

* * *

Будую я ўсё мосцікі-масточкі
І называю горда іх – масты.
Па купінах сляды мае ў радочкі
Там, дзе у багне плаваюць кусты.

А за ракой даўно суніца спее
У цэлага Сусвету на віду.
І нехта там яе сарваць паспее,
Пакуль масты свае я навяду.

* * *

Так і жыву, без аніякай спробы
Свет засланіць сабою у акне.
Не скарджуся на лёс
І на хваробы...
Я усміхнуся –
Усміхнуцца мне.

## ЦУДЫ

Шукаць не трэба зоўсім цудаў,
Яны у нас саміх, найперш...
Яны з такога ж раду будуць,
Як у начы раптоўны верш.

Адкуль прыходзіць – невядома.
З якіх глыбінь,
З якіх бакоў?
Паводзіць ён сябе, як дома,
Нібыта тут спакон вякоў.

І ён з табой усюды ходзіць,
Як патаемны твой сакрэт...
Пакуль сабе не скажа – годзе!
І пойдзе ў нейкі іншы свет.

Цябе пакіне незваротна.
І ён забыты – гэты міг...
І ты – багаты,
Ты – свабодны
Убачыць цудаў шмат такіх.

## Іван Бісеў

* * *

Акно купэ. Як слёзы на шчацэ,
Радкі дажджу на шкле, ды колаў крокі...
У адзіноты я бяру урокі,
Схаваўшы дотык у сваёй руцэ.

Як лечыць ад бяссэнсавых страсцей
Дым вогнішча сыры, пяшчотна-горкі!..
Вунь цэркаўка прамокла на узгорку
Да ўсіх сваіх бярвенцаў. Дождж ідзе.

Прыносяць чай. Змяркаецца. Агні
Ляцяць за вокнамі нямымі матылькамі.
Лісцё, нібы варожы сцяг нагамі,
Стаптаў дажджыска – вершнік на кані.

Канец вяселлю. Адгукнуўся звон
Сярод палёў так гулка і тужліва.
Чарнеецца паўстанак сіратліва,
Ды вецер прычапіўся за вагон.

І зноўку – пуць. Пад рэзкі ветра свіст
Гляджу ў акно, нібы хлапчук наіўны.
У шклянцы астываючае дзіўным
Здаецца мне мой чай і чысты ліст.

## У ТУРАВЕ

Цямнее. Загарэўся бакен,
Адплыў дазорац, як звяздар,
А хвалі ўслед, як дзеці, плакалі,
Іх несла Прыпяць небу ў дар.
І ціша вечная ў клапотах
Люляла ў рэчцы вечны сум,
А за далёкім паваротам –
Агні, стамлёныя ад дум...
Куды плывуць?..
Там, за ракою,
На беразе ёсць дом стары,
Амаль затулены вярбою,
Схаваны ў лісцях да пары.
Вось-вось зацепліцца акенца
І ўстрапянецца песняй ноч,
Гармонік рэхам азавецца
Пра тую, што не зводзіць воч,
Чакае у гушчэчы лісцяў,
Там, пад вярбінай за ракой,
І што забрала мой калісьці
І сон юнацкі, і спакой.
Мой дом не тут. Мой край далёка,
Дзе юнаком быў так даўно!
Ды там вось гэтак адзінока
Прывеціць уначы акно.

І тое ж нада мною неба,
І вузлаватасць каранёў...
І хваля тая ж – гэта ж трэба! –
Сярод імшыстых камянёў.
І гэткі ж смачны і лагодны
Ля вогнішчаў асенніх дым.
І быў калісьці я пяшчотным,
Як гэты голас малады.

## ПРАГУЛКА

Сугучны адыходзячаму дню
Ціхмяны тон суцішанай прыроды.
Лясных палацаў здзіваваны одум
Прысвечаны халоднаму агню.

І я брыду скрозь ціхія пажары,
Нібы спазніўся к бітве і нямы
Ад завірухі восеньскай зімы,
Па золату абрынутай дзяржавы.

О, на вадзе заснулыя лісты!
Што даражэй за гэтае маўчанне,
За абяцанне вечнага гучання,
Што прыплыло на чоўне залатым?

Слоў стала меней, паузы даўжэй,
Тэм стала болей, карацей сустрэчы,
Цяжэй світанне і жаданей вечар,
І святы, колісь шумныя, – цішэй.

Жыццё – змарнелы ўдалечы міраж,
Ды нельга ў ім не збыцца лістападу.
І, нібы ўзнагароду, лісце рады
За мною несці вецер – верны паж.

Нібы рака, струменіцца у змрок
Лістотай палымнеючай дарога...
І ўсё лягчэй становіцца мой крок,
І з кожным крокам я бліжэй да Бога.

## ГОСЦЯ

У садзе, дзе задумаліся дрэвы,
Прыпынак для сябе зрабіла восень...
Каб шолах лісцяў залатых паслухаць
І падзівіцца бездані нябёсаў,
Ды музыкай напоўніць маё сэрца...

А раніцою пад птушыны вырай
Услала, як пярынаю, дарогі,
Пайшла. Якою з іх – не адгадаеш.

* * *

На свеце снег. І цішыня, –
Вось ісціна ўзышла якая!
Цнатліва над зямлёй лунае,
Аголена маладзіком яна.
На свеце снег і цішыня.

Няма спачыну ані дня
Бязгучнаму ў Сусвет зыходу
Сняжынак кволае свабоды,
Нібы завершана гульня
У чысціню самой прыродай.
На свеце снег. І цішыня.

Як аглушальна ўсё ж звіняць
Да болю белыя старонкі,
Ды не паўторыць цішу зноўку
Мазка сляпога мітусня,
Як разамкнеш ты вусны толькі...
На свеце снег. І цішыня.

Імгненне узляціць, як птушка,
Па ўзмаху пальца. Ля акна
Самоту час, як на вітушку,
Намотваць будзе давідна.
Ды неадчэпна ўецца стужкай
І сніцца сэрцу чысціня...
На свеце снег. І цішыня.

## Алена Агіна

* * *

Анёлы ў маім садзе у гасцях!
І навучаюць птушак граць на флейце,
Што яблык мне прынеслі у кіпцях
І сварацца на ганку, нібы дзеці.

І дапякла ўжо гэта валтузня,
Бо дзень і ноч тут не змаўкаюць трэлі.
З ног збілася дурное кацяня,
Суседзі ад іх спеваў ачмурэлі.

Абрус заліты чаем і віном,
Разбіты келіх, скінуты букеты.
Анёлаў пер'е выдрана катом
Без усялякага да чыну піетэту.

І можа, трэба ўжо было паслаць
Абы-куды даўно чародку гэту!..
Ды вокны ў ноч, і немагчыма спаць,
Пакуль гарыць у небе сумна ветах.

А шчыра, дык палохае адно,
Што вось прачнуся і не ўбачу лета,
І на абрусе белым не віно,
А моўчкі стыне кінутая флейта.

* * *

Там, дзе няма ні шчасцейка, ні волі,
А толькі цені галамшывых дрэў
Ляжаць на шкле, там вечар сам паволі
Ад адзіноты нават пастарэў.

Куды ісці настырнаю цыганкай,
Каму даверыць свайго рэха крок?..
Каб раніцай з пахмельнай ліхаманкай
Курыць і слухаць розуму папрок.

Піць таннае віно. І зноўку верыць
Дню шалапутнаму каторы раз!
Тварыць без славы, без імя... Папера
Усё стрымае, а тым болей час.

Бадзягі, музыканты і паэты,
І баламутны іншы розны зброд!
Даўно вам па калена воды Леты,
Дык што вам мора! І усё ж клапот

Мне вашых не стае, мая галота,
Усіх шынкоў капеечных радня,
Калі абрыдне пыха мне бамонда,
Пустая ў кабінетах балбатня.

Аблытаныя таленты гарэлкай,
І лёсам, і жыццёвай мітуснёй...
Прымушаны заўчасна вы нярэдка
У вечнасці прасіцца на пастой.

Апоўначы, калі сціхаюць крокі
І гаснуць чарадою ліхтары,
Прашу я месяц: не патухні толькі,
Магчыма, не дайшлі дамоў сябры.

## Алег Ананьеў

* * *

Адпела апошняя птушка,
Заранка даўно адцвіла,
І восень, нібы Папялушка,
У гурбы лістоту змяла.

Калі ж і аблокаў карункі
Не змогуць прамень падарыць,
Анёлаў святлейшыя думкі
Гатовы ўвесь свет азарыць.

Заслаць ці то снегам, ці пухам
Бялюткіх анёлавых крыл
Усё, што пакутлівым духам
У лёсе сваім сатварыў.

І вось, зноў народжаны, буду
Ісці беласнежнаю той
Сцяжынкай, дзе зоры паўсюдна
І неба не над – пада мной.

* * *

Белым голубам – у паднябессе!
Чорным воранам – ніц у журбе.
То асветлена мараю песня,
То трывогай, – і ўсё пра цябе.

Пра цябе мае светлыя думы,
Без цябе я хаджу сам не свой.
Я з табой такі велічна юны,
Бо мне дадзена толькі з табой

Перад злом не сагнуцца, як служка,
Не аддаць сваю долю на злом.
Ты – жаданая сіняя птушка,
Бо я з ночы
з табой –
у святло!

## *Аляксандр Якушэнка*

* * *

Зноўку дзень.
Над Бранскам сее дождждык.
Ды палітра гукаў – узахлёб!
Вось і певень ранак растрывожыў
І параніў сон мой навылёт.

Музыкант пілікае на скрыпцы,
І яна зрываецца на крык.
А сабака брэша так, як быццам
Напалохаць хоча грузавік.

Галкі, як бязульныя дзяўчынкі,
Раскрычаліся у вышыні.
У акенца стукае галінка,
Нібы ёй карціць пагаманіць.

Ну а дождждык сеецца няспешна,
Гукі размываюцца ў цішы...
Дзень усходзіць слаўны, як усмешка,
І натхненне спее у душы.

* * *

Не дадзена
ні шчасця, ні спагады.
І нават горлам час,
нібыта кроў...
Ніякае сабе не дам я рады,
Што ні раблю,
як ні шукаю слоў.

У змрок ляціць
Расія без граніцаў.
А з ёй у цемры кружым я і ты.
Зіма глядзіць услед,
нібы баіцца,
Што замяце апошнія сляды.

Вакол усё павязана бядою,
Прыцягвае
начная кругаверць...
...А снег ляціць над цёмнаю вадою,
І свет халодны сам,
нібыта смерць.

* * *

Як душна!
Духата якая...
Перахапіла проста дых.
А ў небе то прывід мільгае,
То хмара чорная, бы кіт.

І гром буркоча...
Што ж рабіць мне?
Куды мне кінуць свой пагляд?
Стаю, як пудзіла ў жыце,
Ні кроку ўперад,
                    ні назад.

Усё змянілася навокал,
Нічога я не пазнаю.
Нібыта жыта
                так высока,
Што я над прорваю стаю.

Хістаюся...
Вось-вось сарвуся,
Не дапаможа тут анёл...
Якая духата над Руссю,
Над непазбыўнай чысцінёй!..

## *Станіслаў Сянькоў*

* * *

І не так, і не гэтак, адбылося іначай,
Спадзяваўся, цярпеў, а цяпер не магу.
Я ў далоні зямлі упаду і заплачу,
Рэчка ўсхліпне, нібыта дзяўчо, на бягу.

Ды вятрыска, што лісце, бы кнігу, гартае,
Будзе доўга шаптаць мне пра нешта сваё...
Па іржэўніку гойсае воўчая зграя,
Па законах той зграі цяпер мы жывём.

Падымуся і ледзь пабрыду. Асцярожна
Па знаёмай сцяжынцы пайду наўздагад.
Болей гэтую казку мне слухаць няможна:
Чалавек чалавеку – таварыш і брат.

Хто за зло і падман нам сягоння адкажа?
І за казку, якую забралі ў мяне...
Калі поўню і тую запэцкалі сажай,
Мяне воўчая зграя наўрад праміне.

## ГАЛУБЕЯ

Ні пра што не шкадую,
А ўсяляка было!
Як галубка, мілуе
Галубея – сяло,

Хваляй роснаю – травы,
Незабудак блакіт...
Водар сцелецца млява
Ля зялёных ракіт.

Птушкі кожнае сховы
Тут я зведаў, спазнаў,
Дзе блакітнай падковай
Спачывае Дзясна.

Да крыві пасціраю,
Ногі я, а іду,
Бо радней свайго краю
Я нідзе не знайду.

## *Фелікс Мысліцкі*

* * *

Не павярнуць назад ніяк,
Ды вінаваты сам, дзівак,
Што ўвесь Сусвет лічыў за дом.
І вось пад свіст і звон ахрып,
Да шыбіны, як ліст, прыліп
У Госпада перад акном.
Свет белы у адным радку
Змясціў. Прыйшоў у талаку
Паэтаў, завяршыўшы круг.
І сілы вершу ўсе аддаў,
Што у Чарнобылі канаў,
Знясілены зусім ад мук.

### ГОЛАС

Яго закапвалі у глебу,
А ён, як зерне, прарастаў.
І гадаваўся воляй неба
І сам, нарэшце, вольным стаў.

Дае усім народам сілу,
Благаслаўлёную Тварцом,
І пад ягоным небасхілам
Узводзіць мару, нібы дом.

## МЕЛОДЫЯ ІМГНЕННЯ

Сінія казкі піша зямля вадзяная,
Сінія казкі.
Зорныя краскі у космасе Бог зачынае,
Зорныя краскі.

Воля імкнецца тварыць зоркапады,
Воля імкнецца.
Знічка смяецца і свет белы радуе,
Знічка смяецца.

Толькі світанне кнігу нябёс прачытала,
Толькі світанне.
Песня расстання з вечнасцю нас аб'яднала,
Песня расстання.

*Наталля Собалева*

## ВЯСНОЙ ПЕРАМОЖНАЮ

Тую, што людзі завуць вясною,
Адзінотаю я заву.

*Ганна Ахматава*

Навакол запахла ўсё вясной!
Я спалю платок жалобны свой.

Вытру хустачкаю слёзы я
Нават з той жанчыны – бронзавай.

Што абсыпана пялёсткамі,
На пагонах – зоркі жорсткія.

Зямля-матухна іх вышыла,
Бо удзячная, што выжыла.

Плыве хмара ў небе сумная,
Ой вы, думкі мае тлумныя.

Слёзы самі – так і коцяцца!
Мне надзець сукенку хочацца.

Тую, белую ў гарошыну,
Нешта мне зусім пагоршала.

Слёзы самі – так і коцяцца,
Маё сэрцайка калоціцца.

Выйшла я, а вы – калонамі,
Але ж з песняй, не з праклёнамі.

А за спінамі – шынелі скаткамі,
Сляды вашыя ў пыл пячаткамі.

І расталі за дуброваю,
Нібы птушкі над галовамі.

Поўня ў небе, як гарошына,
Хутка ўбачымся, харошы мой!

*Сцяпан Кузькін*

## ЖАНЧЫНА

Лісце кружыць у віры адчайна
З адзінокай лодкай без вясла...
Тут жанчына з сумнымі вачамі
Толькі што сцяжынкаю прайшла.

На рассохлай і старой іконе
Давялося ўбачыць гэткі лік...
Цішыня. З галінак толькі голых
Кроплі адзавуцца, як усхліп...

*Мікола Пасноў*

## ДЗЯКУЙ, БОЖА

Як праз вэлюм лілавее горад,
Нерухома ў сажалцы вада.
І паветра чыстае, як голас
У яшчэ бяспёрага дразда.

Ружавеюць маладыя вербы,
Вусцішны вячэрні вадаём.
Зорачка дрыжыць у цёмным небе...
Дзякуй, Божа, што яшчэ жывём.

Пуць жыццёвы я амаль асіліў,
Ды разгублены, нібы дзіця,
Я стаю пад золкаю асінай,
Тленнасць адчуваючы быцця.

І салодкая, бы цукар белы,
Тленнасць гэтая на схіле дня.
І нікольki мне не знадаела
Тое, што навокал бачу я.

Горычы на дне душы нямала,
Ды зірнуўшы ў гэты вадаём,
Паўтараць душа не перастала:
– Дзякуй Богу, што яшчэ жывём.

Што і я, Гасподзь, тваё тварэнне,
Як і зоркі свет, і плынь вады.
Што ў высокім горным азарэнні
Воблакі расталі, як гады.

А с берега другого песня
Звенит, как жаворонок вешний.
От белых крыльев даль светла,
То ангела мне Бог послал.

*Нина Шклярова*

# В отблесках души

## *Переводы с белорусского, стихи*

*Геннадий Говор*

## РОЖДЕСТВЕНСКАЯ ЗВЕЗДА

Пани Гвездовская,
Пани...
Слов я никак не найду.
Не для меня Ваши сани,
Лучше пешком я пойду.
Буду бродить по Полесью,
Грезить о Вас,
Песни петь...
Жаворонком в поднебесье
В дальние дали смотреть.
Пани Гвездовская,
Пани...
Понял я в этой глуши:
Блекнут алмазные грани
В отблесках Вашей души.
Пани Гвездовская,
Пани...

## ЗА ГОРИЗОНТОМ

На берегу седой Десны,
Там далеко, за горизонтом,
Где вещие блуждают сны,
Трубчевск раскинулся вольготно!

И радуется вновь Боян,
Гордится своим родом славным,
Объединяя всех славян
Святой молитвой православной.

## НАДОЕЛО

Натерпелся. Довольно.
Хватит.
Надоело –
Мешает маска.
Невозможно шагать –
Проклятья,
Как в затоне болотном
Ряска.
Я дойду до Весны –
Половодье
Отстирает волной
Болото.
В лодку сяду я –
Путь свободен!..
Только слышно,
Как плачет кто-то...

## Николай Литвинов

* * *

Не хочу тебя я встретить,
Слышать голос твой.
Мы, как маленькие дети,
Милая, с тобой.
Но скажу я по секрету –
Небо я молю
Мне помочь не выдать чем-то,
Как тебя люблю.

## Алёна Алешина

* * *

По ком звонят тогда колокола,
И роскошь предназначена столицы,
Когда у ног монаха лишь сквозняк
Вздыхает на потёртых половицах?..

*Михаил Болсун*

## ЛЕТНЕЕ УТРО

Облака проплыли льдиной,
Месяца фонарь погас...
Утро стадо хворостиной
Выгнало пасти как раз.

Где росой омыты травы,
Следа тянется шнурок.
Лучик солнечный, кудрявый
В омут прыгнул, как малёк.

Чешуёй плотва играет,
Отразился в речке бор,
Да гусей залётных стая
Растревожила простор.

Из-под ног родник струится,
Что с целебною водой.
Золотится, серебрится,
Оживает край родной!

*Нина Шклярова*

## ДВА КРЫЛА

Застеклена речушка льдами
Между крутыми берегами.
И что же делать? Как мне быть?
Ни перейти, ни переплыть.

Я полетела б, да не птица,
А вьюга всё сильнее злится,
Снега полощет над рекой...
До неба уж подать рукой.

А с берега другого песня
Звенит, как жаворонок вешний.
От белых крыльев даль светла,
То ангела мне Бог послал.

И снежный наст метель с разбега
Мне постелила. Белым снегом
Ковёр искрится под ногами
Между крутыми берегами.

Иду по льду и нет испуга,
Мне крылья подарила вьюга:
Одно – то песня, мне утеха,
Другое – этой песни эхо.

Я с нею в облаках витаю
Над бездной ада и над раем.
И даже голос мой продрог...

Но песню всем, кто слышать может,
Несу в душѐ я осторожно,
Как и свечу, что Бог зажёг.

*Авторизованный перевод*

* * *

Сегодня, как ребёнок,
Я плакала спросонок,
Как будто мне игрушку
Никто не подарил.

Не слышал и не видел
Никто моей обиды.
Слезы моей не вытер
И свет не засветил.

И только ночь слепая
На плач мой натыкалась
И по углам скрывалась,
Своих лишаясь сил.

*Перевод Марины Юницкой*

* * *

***Памяти Евгении Янищиц***

Ночь. Дорога шаркает по днищу.
Дум моих сумятица и строк...
Слава Богу, что ты есть, Янищиц,
И твои стихи, и твой сынок.

Будет встреча.
Гвоздь последний с гроба
Упадёт. –
Закончится страда
И моя. Сомкнём мы руки, чтобы
Не разнять их больше никогда.

Я ж, пока, жнивьём, босой и нищей,
Как под поезд, в каждый бедный стих...
Хорошо тебе,
Ведь ты – Янищиц,

Я ж – тобой забытый
Черновик.

*Перевод Елены Агиной*

* * *

Прорастаю сквозь слёзы
Мыслями, нервами.
Прорастаю сквозь небо
Облаком первым.
Может, лучшим не самым,
Но в этом ли дело?
Я трудилась упрямо,
Да не так, как хотелось.
Так упрямство согнёт,
Так тебя перестроит,
Что себя днём с огнём
Не отыщешь порою.
Шаг – и солнца вдруг море,
Шаг – и туча слепая,
Словно радость и горе
В кошки-мышки играют.
Как тот саженец хилый,
Что шумит нынче садом,
Набираем мы силы
Через слёзы и радость.

*Перевод Марины Юницкой*

* * *

Юность лишь вчера шумела
И звала венки вязать.
Я ж стояла неумелая –

Где же мудрость?
Если б знать!

Ах, деревья, годы мчатся
Так, что кругом голова.
Я ровесница вам, братцы, –
Где же мудрые слова?

И, волнуясь кроной дивной,
Мне шепнул красавец-клён:
“Хорошо, что ты наивна,
Плохо тем, кто умудрён”.

Жизнь рябиной переспелой
Стала что-то отдавать.
Оглянуться не успела –

Где ж наивность?
Если б знать!

*Перевод Марины Юницкой*

* * *

Яблоки от Яблочного Спаса...
Храм медовой спелостью пропах.
Помнишь сад цветущий, ночь, и нас –
В темноте два белых лепестка?

И не знали, то ль на этом свете,
То ль в раю находимся с тобой.
То ли небо в яблоневом цвете,
То ли ангел божий ночью той

Был в саду, со свечкою в руках,
И шептал молитвы в изголовье,
Тихо ожидая, чтоб в веках
Созревали яблоки любови.

Яблоки от Яблочного Спаса
Бережно домой несёт народ.
Люди добрые мои! Для вас
Снова яблоня моя цветёт.

*Перевод Елены Агиной*

## ЭРОТИЧЕСКИЙ НАТЮРМОРТ

*М. Башлакову*

Ну что, браток,
Укроемся под дубом?
А, может, лучше
Спрятаться в дупло?
Быть может, нас,
Несчастных и нелюбых,
Согреет наше
Прежнее тепло.

Я обовью тебя,
Как перевясло,
Так приголублю
Чародейством рук,
Что станет мир вокруг
Опять прекрасным
И молодость к тебе
Вернётся вдруг.

Ты снова юн!..
А тихим утром ранним
Подарим счастье
Я – тебе, ты – мне.

И будет дуб
От нашего дыханья
Качаться,
Словно лодка на волне.

Потом затихнет,
По его морщинам
Росой стечёт
Лесная тишина.
Я – женщина!
Ты, любый мой, – мужчина!
Какая радость
Нам ещё нужна!?

*Перевод Владимира Маслова*

## ПРО ЛЮБОВЬ

Плыл вечер в ароматах трав.
И от забот дневных
Чуть одуревший шмель, устав,
На яблоне притих.

А яблоня ему листок,
Как будто бы ладонь,
Скорей подставила под бок,
Его лелея сон.

И шмель взволнованным баском
Гудел ей про любовь.
И, может, нежности такой,
Таких дурманных слов

Она не знала с той весны...
А ночью буйный гром,
Подслушав, ревновал их сны
И цвет сбивал дождём.

Но вот...
И ливень перестал.
И яблоки в садах.
Шмель погудел, да и пропал
Неведомо куда.

Дымок над яблонею вслед
Летел  за беглецом...
То чай цветочный пил сосед
И пахло чабрецом.

*Перевод Елены Агиной*

* * *

Да, я женщина,
Я женщина!
Так природою мне завещано.
И, наверное, не без причины
Устремляют глаза мужчины
Все внимательней день ото дня
На меня,
на меня,
на меня.
И в кино, и в автобусе тесном
Замечать эти взгляды лестно.
Ах, под взглядом моим счастливым
Все мужчины вдруг стали красивы,
Все достойны, все хороши,
И в глазах у них столько души!
Даже парни мои былые
Смотрят так, будто видят впервые...
Неужели много мужчин?
Для меня ж ты
один,
один.

*Перевод Марины Юницкой*

* * *

Мне письмо от тебя приснилось.
Белый лист, как светлейшая милость.
Там написано: “Милая Нина...”
Вот сбылось бы. Ну хоть вполовину.

Телефонный звонок... Голос твой,
Как птенца, сжимаю в ладонях.
Пахнет в воздухе новой листвой,
И в пролесках глаза мои тонут.

Это чудо!.. Иль жизни игра
На тростинке души звучащей?
Бродит счастье вдали от двора.
Что ж... Стихи – это тоже счастье.

*Перевод Елены Агиной*

* * *

На шершавом,
Как сама, пеньке
Дремлет бабка...
Руки на замке
Вздрагивают
Веткою сухой
На горбатой
Старенькой клюке.
А в саду-то ягоды
В соку!

А кукушка всё кричит:
– Ку-ку!
Словно молвит бабке:
– Надо жить...
И у той слеза из глаз
Бежит.

*Перевод Алёны Алешины*

## КАПУСТА

Мне подают “холодное”.
И хлеб. А, вроде, пусто.
Я всё ещё голодная –
Хочу капусты!
Капустка!
Это же еда!
Ты не согласен?
Вот чудак!
А мне такое помнится:
В деревню я пришла,
К обеду мать из погреба
Капусту принесла.
Ядрёную, хрустящую –
Капустку настоящую!
...Как с огородом справятся,
Под зиму всем селом
Клеёнками подвяжутся
И станут за столом.

Шинкуют бочки целые!
В любой заглянешь дом –
Капусты горы белые
С морковкой – над столом...
Мне подают “холодное”
И хлеб. А, вроде, пусто.
Я всё ещё голодная –
Хочу капусты!

*Перевод Станислава Сенькова*

## ТРОЛЛЕЙБУСЫ

Мне очень нравятся троллейбусы –
Они так важно проплывают,
А в окнах люди, словно ребусы,
Какой мудрец их разгадает?
О вы, железные олени,
Рога поднявши к проводам,
Спешите вы к рабочей смене
И к самым дальним поездам.
Когда лишь для одних влюблённых
Цветут тюльпаны фонарей,
Плывёт троллейбус полусонный
Навстречу утренней заре.
Бежит за ним вдогонку эхо,
И рассмешит его тот гром,
Что поднял конь своей телегой,
Где цыганёнок, словно гном.

*Перевод Марины Юницкой*

* * *

Я стою тихонько у окна,
Облака глазами провожаю,
Затерялась в них моя весна,
Как девчушка средь цветов босая.

У калитки ветерок притих,
Как котёнок у окошка малый.
С этих облаков и глаз моих
Ты, весна, бери свое начало.

*Авторизованный перевод*

* * *

Лезвие тончайшее – поэзия!
По нему иду босая резво я,
Хоть и вся натянута от боли,
Как струна, но клясть не стану долю.

Упаду росою на траву,
Устремлюсь ромашкой в синеву,
Ухвачусь за небо,
И – живу!

*Авторизованный перевод*

* * *

Церковь здесь стояла. За углом.
Потому и сплю я так спокойно,
Что надёжно бережёт мой дом
Древняя церковная икона.

Кто молился перед ней? Рыдал?
Что у Господа просил такого?
...Протекли во множестве года –
Только не стареет лик Святого.

Только не стареет край родной –
Пусть дома иные и названья.
И народ вокруг всё тот же – мой!
И любовь к нему – моё призванье.

*Перевод Марины Юницкой*

## У ВЕЧНОГО ОГНЯ

Заросли у Вечного огня
Вся земля – цветами,
Камень – именами...
Приведу сюда я дочку, что с меня
Не спускает глаз своих влюблённых.
Пусть послушает печаль Огня
И погладит имена ладонью.

*Перевод Владимира Парыгина*

## У ОБЕЛИСКА

И я здесь садила саженец,
Чтоб падали яблоки
С яблони.
Чтоб ели их с хрустом дети
И пили спелое
Солнце.
А в гнезде из уютного пуха
Птенец желторотый спал...
И чтобы ему приснилось
Господнее небо ясное,
Чтоб зори с любовью пели
Ему свою колыбельную,
И ангелы им подпевали...
Чтоб эта просторная яблоня,
У которой он жил за пазухой,
Тихонько его качала
И сторожила сон...
А не для того, чтобы недруги
Сожгли её с нашей хатенкой,
И с криком твоим охрипшим,
Сыночек мой!

*Перевод Феликса Мыслицкого*

* * *

Ах, как птенчиком пушистым
Раньше щебетала!
В тёплом гнёздышке душистом
Горюшка не знала.

Знала каждую былинку,
Тенькала счастливо!
Жук пузатый и травинка
Тешили, как диво.

Мимо стая пролетела,
За холмом пропала.
Я крылом взмахнула смело,
Из гнезда упала.

Вот тогда-то и узнала,
Что такое горе,
Как по свету полетала,
Побыла за морем.

Я назад вернулась спешно,
Может, и некстати...
Никогда уже, конечно,
Птенчиком не стать мне.

Где с кузнечиком играла,
Выросла крапива...
Все равно я щебетала,
Как тогда – счастливо.

*Авторизованный перевод*

## БЕЛАРУСЬ, МОЁ СЧАСТЬЕ...

То ли травушка в росах
Серебрится волной,
То ли мамины косы
Под моею рукой?

Беларусь, моё счастье!
Ты Отчизна моя –
Моё солнце в ненастье
И отрада моя!

То ли звёзды я ночью
Вижу дома в окне,
То ли мамины очи
Улыбаются мне.

То ли эхо качает
Мои грёзы во сне?
То ли мать напевает
Колыбельную мне?

*Авторизованный перевод*

* * *

Назавжді везе свої валізи
За кордон іще одна сім'я.
Ну, а я лишаюся в вітчізні.
Так люблю? Чи, мо, прикута я?

Чим, скажіть ви? Ланцюги які є,
Що мене тримають на землі,
Звідки рідну мову гнали кієм,
Де з душі останній хрест зняли?

То ж які існуюць в світі пути,
Що мене зв'язали з лахміттям,
У якім тиняється нечутно
Материнська мова між сміттям?

Тут живе вілдуння Хіросими
І щезає тихо добрий люд...
Він святий перед всіма святими,
Бо живе і помирає тут.

Край мій пеклом був мені і – раєм.
Та люблю його я без прикрас.
Бо вітчизну ми не вибираєм –
Бацьківщина вибирає нас.

*Перевод Елены Кобзевой*

## ЗМЕСТ

## В отблесках души

*Нина Шклярова*

Літаратурна-мастацкае выданне

**Шклярава Ніна**
(Пчэльнікава Ніна Нікіфараўна)

# АБЕРУЧ

***Пераклады з рускай і беларускай моў, вершы***

Адказная за выпуск М.А. Беразоўская
Падрыхтоўка тэкстаў В.М. Сакуновай
Камп'ютэрная вёрстка А.Ф. Котавай
Вокладка С.В. Кузьмянковай

Падпісана ў друк 05.03.07 г. Фармат 70х90[1]/[32].
Папера афсетная. Гарнітура "Petersburg". Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 2,19. Ул.-выд. арк. 1,73. Тыраж 100. Заказ № 16.

Выдавецкае і паліграфічнае выкананне
ТДА "Барк".
ЛИ № 02330/0133226 ад 30.04.2004 г.
ЛП № 02330/0148788 ад 30.04.2004 г.
246050, г. Гомель, пр. Леніна, 3.